# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «Публічныя разборкі губяць справу»

*Відавочна, што апазіцыя перажывае не лепшыя свае часы, што пацвярджае і нядаўні скандал з абвінавачаннямі яе лідэраў у карупцыі. Думаецца, погляд Станіслава Шушкевіча на гэтыя падзеі мае цікавасць.*

***– Спадар Станіслаў, толькі-толькі сціхнуў скандал з карупцыяй у кіраўніцтве шырокай грамадскай кааліцыі. Ці мае, на ваш погляд, ініцыятыва старшыні Народнай Грамады Міколы Статкевіча наконт стварэння спецыяльнай камісіі па расследаванні фактаў карупцыі сярод лідэраў апазіцыі рэальную глебу?***

– Публічныя разборкі толькі губяць справу апазіцыі. І ўзнікае пытанне: каму патрэбны гэтыя скандалы? Глядзіце, што адбываецца. Напачатку Статкевіч уздымае пытанне, маўляў, усе жулікі, а пасля гаворыць, што ніякага пытання не ўздымаў. Гэта звычайная піяраўская акцыя.

***– Аднак, як кажуць, дыму без агню не бывае. Ці маеце вы звесткі пра тое, што заходнія гранты на развіццё беларускай дэмакратыі ці раскрадаліся, ці немэтанакіравана выкарыстоўваліся?***

– Я не маю і кроплі звестак пра тое, хто якія заходнія гранты атрымаў. Акрамя таго, хто ў друку сам прызнаўся, што атрымліваў гранты. Я ведаю толькі двух такіх чалавек – гэта Грыб наназіранне і Працька – таксама на назіранне. Мне здаецца, на іх ніхто не скардзіцца.

***– У звязку з гэтым скандалам называліся прозвішчы старшыні БНФ Вінцука Вячоркі, старшыні АГП Анатоля Лябедзькі...***

– Больш я нічога не ведаю. Але нават каб ведаў, гэтае пытанне я не абмяркоўваў бы.

***– Як бы там ні было, але скандал адбыўся. І гэты скандал запляміў усю апазіцыю.***

– Я б так не сказаў. Для пераважнай большасці тыя, хто ўдзельнічаў у процістаянні існуючаму маразму, – гэта не справа бізнесу, а жыццёвая пазіцыя. На пальцах адной рукі можна пералічыць тых, хто аблайваемы і хто аблайвае. Якое ж дачыненне гэта мае да апазіцыі?

***– Спадар Станіслаў, шэраг апазіцыйных лідэраў аптымістычна гавораць, што апазіцыя не прайграла прэзідэнцкія выбары. Аднак, відавочна, прайгралі ўсе мы. Чаму так здарылася?***

– Я звярну вашу ўвагу на два дакументы. На прэзідэнцкіх выбарах міжнароднае назіранне ажыццяўлялі дзве вялікія місіі: АБСЕ і арганізатараў органаў выбараў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Ужо 10 верасня місія АБСЕ, калі адкінуць усю дыпламатычнасць, заявіла, што не прызнае выбары, а другая місія, куды ўваходзяць такія людзі, як Вешнякоў, сказала, што прымае гэтыя выбары. Ніхто не звярнуў увагу на тое, што 4 кастрычніка ў Варшаве БДІПЧ АБСЕ падвяла канчатковыя вынікі, а 16 кастрычніка гэта зрабіла і АВЦЕ. АБСЕ не змяніла сваёй пазіцыі. Другая ж місія цяпер заяўляе: нам вядомыя вынікі прэзідэнцкіх выбараў, гэта значыць, таксама фактычна адмовілася прызнаць вынікі выбараў. Гэта вынік нешляхетнасці асобных членаў гэтай камісіі.

Я думаю, што перспектывы ў апазіцыі ўсё ж нядрэнныя. Прыкладна 25-30% галасоў у падтрымку Ганчарыка перароблены ў падтрымку Лукашэнкі. Абрання Лукашэнкі не было, легітымным ён прызнаны не будзе, калі не адбудзецца такіх інтрыг, як з АВЦЕ, перспектывы для прыстойнага развіцця Беларусі няма. Падзелу ўладаў у нас няма, што пацвярджаецца хоць бы прызначэннем Міхаіла Мясніковіча на пасаду прэзідэнта Нацыянальнай Акадэміі навук – чалавека, які ніколі ў жыцці не праводзіў ніякіх навуковых даследаванняў.

***– Станіслаў Станіслававіч, звальваць віну за пройгрыш на выбарах толькі на фальсіфікацыі, відаць, няправільна. Відавочна, апазіцыя спрацавала таксама не лепшым чынам.***

– Разбірацца ў тым, ці пацеў нябожчык перад смерцю, я думаю, няма патрэбы. Можна кінуць шмат папрокаў на адрас арганізатараў выбарчай кампаніі і нават на работу мас-медыя ў тых умовах, якія былі створаныя. Але тыя людзі, якія рабілі справу сумлення, для якіх гэта – жыццё, не заслугоўваюць гэтага папроку.

**Гутарыў Рыгор БУЯН**

## ЛЮСТРАФАКТ



7 лістапада ў Мінску кветкі да помніка Леніну на плошчы Незалежнасці ўсклалі спачатку каля паўтысячы членаў Камуністычнай партыі Беларусі, а потым прыкладна 300 прадстаўнікоў Партыі камуністаў Беларускай.

# «Радыё Рацыя»: аб'ектыўна пра рэальнае

3 лістапада споўнілася два гады беларускамоўнай радыёстанцыі «Радыё Рацыя». Яна бярэ свой пачатак ад папулярнай радыёстанцыі 101,2, зачыненай беларускімі ўладамі. Два гады працы засведчылі, што «Рацыя» здолела інтэгравацца ў сістэму беларускіх электронных мас-медыя, асабліва ўлічваючы той факт, што большасць эфірнай прасторы кантралюецца беларускай дзяржавай. «Радыё стала тым сродкам масавай інфармацыі, які паспрабаваў стварыць аб'ёмную карціну таго, што адбываецца на Беларусі», – гаворыць галоўны рэдактар «Радыё Рацыя» Юрась Карманаў. Унікальнасць праекта «Радыё Рацыя» заключаецца ў тым, што рэтрансляцыя вядзецца не толькі на сярэдніх і кароткіх хвалях, але ў Беластоку радыё вяшчае і ў фармаце *FM*. Адзіная ў Польшчы нацыянальная меншасць – беларуская – мае магчымасць слухаць «Радыё Рацыя» па-беларуску. Цягам двух гадоў існавання «Радыё Рацыя» «імкнулася максімальна данесці інфармацыю пра падзеі на Беларусі да нашых слухачоў». «Радыё Рацыя» здолела значна пашырыць сваю аўдыторыю за кошт правінцыі. «Запатрабаванасць на аб'ектыўную, незаангажаваную інфармацыю расце, таму нас слухаюць і ў вёсках, і ў невялікіх гарадках, куды незалежныя газеты не даходзяць. Мы сталі тым сродкам масавай інфармацыі, каторы даносіць аператыўную і аб'ектыўную інфармацыю да ўсіх, хто яе шукае», – гаворыць Ю.Карманаў.

Ю.Карманаў асабліва падкрэсліў, што «Радыё Рацыя» арыентуецца «на сярэднестатыстычнага беларуса, які шукае інфармацыю. «Радыё Рацыя», апрача ўсяго, выконвае і асветніцкія функцыі. На радыё існуе шэраг аўтарскіх праграмаў вядомых у краіне асобаў: Уладзімір Арлоў вядзе «Галерэю Кліо», лідэр гурта *NRM* Лявон Вольскі робіць перадачу «Квадракола».

Галоўны рэдактар «Радыё Рацыя» заяўляе, што перспектывы развіцця радыё – у фармаце *FM*. «Але ўлічваючы той факт, што МЗС Беларусі ўжо некалькі разоў адмаўляў журналістам «Радыё Рацыя» ў акрэдытацыі, спадзяваемся, што мы атрымаем доступ да *FM*, пакуль што не даводзіцца», – сказаў Юрась Карманаў.

**Ягор СУМНЫ**

## СВЕТ

# Президента Казахстана обвинили в коррупции

Действующих президентов на планете – не единицы, но все они на виду. В силу публичного характера их деятельности. Очень многое и многие зависят от принимаемых ими решений, да что там, иногда кивка или благосклонного взгляда достаточно – и дело пошло. А уж сколько приходится на каждого главу государства любопытных и завистливых! Как тут не бояться даже шороха падающего листа, не говоря уж о международном скандале

Тем более трудно придется президенту Казахстана Нурсултану Назарбаеву. Беда пришла с востока. В виде последствий апелляционного судебного разбирательства в отношении 62-летнего южнокорейского промышленного магната Цой Сун Юна. По словам его адвоката, экс-глава Shindongah и Korea Life Insurance Co. признался только сейчас, что в 1996 г. был вынужден дать взятку первому лицу Казахстана. И немалую - $10 млн – для того, чтобы его бизнес, в частности алмазообработка, получил развитие в этой пост-советской республике.

По предыдущему решению суда низшей инстанции, которое было принято еще в 1999 г., Цой Сун Юн был признан виновным в мошенничестве и вывозе капитала за границу. Его приговорили его к пяти годам пребывания за решеткой и оштрафовали на $165 миллионов.

До сих пор остается тайной – кто передавал взятку. Подсудимый утверждает, что он поручил этот деликатный вопрос своему подчиненному, но не уверен, выполнено ли его поручение. Последний же открещивается, как может и утверждает, что деньги передал лично Цой Сун Юн на встрече с Нурсултаном Назарбаевым.

Разумеется, такое серьезное обвинение – коррумпированность первого лица государства – не прошло незамеченным, и пресса обратилась за подробностями в администрацию президента Казахстана. Глава пресс-службы президента Лев Тараков отказался от комментариев, заявив, что у него на этот счет нет никаких сведений. И в самом деле, откуда им быть? Не станет же президент сообщать о подобных «мелочах» (даже если они и были) на каждом углу. В любом случае, следствиям обеих стран придется теперь попотеть, поиграть в отгадки и догонялки. Да и самому подсудимому, равно как и его (возможному) высокому покровителю придется повертеться, как ужу на сковородке, чтоб установить кто, кому, когда, сколько, за что...

**Utro.ru**

# Талибы обнаружили российских офицеров

Посол движения «Талибан» в Пакистане Абдул-Салам Заиф заявил, что индийские и российские офицеры помогают афганской оппозиции сражаться с силами талибов, сообщает *AFP*.

По сведениям Заифа, российские, индийские и американские офицеры направляют действия войск Северного Альянса в северной части Афганистана.

Ранее руководство Министерства обороны РФ неоднократно заявляло, что ни об участии российских военных в боевых действиях в Афганистане, ни вообще о каком-либо российском военном присутствии в этой стране не может быть и речи.

# Форум без сенсаций

*Окончание, начало на стр.1*

Заверения главы белорусской делегации Урала Латыпова в том, что Беларусь считает себя участником этой коалиции, были восприняты скептически и с заметным недоверием. А сам президент Александр Квасьневский недвусмысленно дал понять, что по сути правильные слова Латыпова о поддержке антитеррористической коалиции, роли в ней США и т.д. носят, к сожалению, во многом декларативный характер. Вместе с тем, сам факт приглашения в Варшаву, должен восприниматься как кредит доверия белорусскому руководству. Ключ к выходу из внешнеполитической изоляции по-прежнему находится в Минске.

Некоторые из тех, кто ожидал сенсаций, пожелали их увидеть в заявлениях Латыпова о необходимости сотрудничать с *NATO*. И что Россия, в обозримом будущем может стать членом Североатлантического альянса. По этому поводу можно напомнить следующее. Беларусь скорее союзной России вернула своего представителя в *NATO* в Брюссель, после разрыва отношений, вызванного натовскими бомбардировками Югославии. Другое дело, что белорусский представитель остается единственным из стран-участниц программы *NATO* « Партнерство ради мира», который имеет ограниченный доступ к информации, которая предусмотрена в штаб-квартире для такого рода партнеров альянса. Но такое положение является следствием общего отношения к официальному Минску, спровоцированного его антизападной политикой. А что касается членства России в *NATO*, то такую гипотетическую возможность допускает и сам Путин. Правда то, что эту возможность решил повторить на прошедшем Варшавском форуме Латыпов, все же можно развить в качестве определенной сенсации. Получается, что одна из частей так называемого союзного государства может стать членом *NATO*. Скорее всего, глава Администрации президента Беларуси дал понять, что никакого союзного государства не получается. Примечательное признание накануне долгожданной встречи Лукашенко с Путиным, которая должна произойти в Москве в конце ноября.

Вопреки ожиданиям, на Варшавском форуме так и не были открыто выставлены претензии к Минску по поводу его связей с одиозными арабскими режимами и организациями, обвиняемыми в терроризме. Об этом говорили лишь в кулуарах. Впрочем, некоторые кулуарные беседы накануне и во время форума происходили и в Минске. По неофициальной информации, вплоть до октябрьских праздников, напряженно трудились с послами Европейского Союза и США высокопоставленные чиновники из Администрации президента и внешнеполитического ведомства. Похоже, ОБСЕ у них стало неактуальной. Поэтому уже не только глава МИД, но и помощник президента Посохов игнорируют неоднократные просьбы руководителя Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ посла Вика встретиться с ними. Ведь никакого саммита ОБСЕ в ближайшее время не ожидается. Можно предположить, что основные тезисы содержания бесед с главами дипломатических миссий и озвучил один из их участников – глава МИД Михаил Хвостов, когда выступал на FM радиостанции «Столица». В частности, он признался в том, что, оказывается, Беларусь политически присутствует в антитеррористической коалиции. И обязалась впредь предоставлять всю необходимую информацию, связанную с проблемами борьбы с международным терроризмом в Совет Безопасности ООН. Стоит напомнить, что незадолго до этого радиовыступления Хвостова из министерства иностранных дел Беларуси звучали другие заявления. Так, к примеру, в них говорилось, что ему ничего не известно о документе, в котором содержаться факты о причастности Беларуси к незаконным сделкам по продаже оружия, распространенном в Совете Безопасности ООН. В то же время признавалось, что некоторые государства пытаются поднимать эту проблематику в том же Совете Безопасности. И вот теперь стало известно, что Беларусь взяла на себя обязательства предоставлять туда требуемую информацию. Интересно, будет ли она, как и таинственный документ Совета Безопасности, носить закрытый или все же открытый характер.

Следует отметить, что глава Администрации президента Урал Латыпов не первый раз выступает в Варшаве. Предыдущее его выступление было в качестве вице-премьера, главы МИД Беларуси. Несмотря на негативный имидж режима, который он тогда представлял, ему все же удавалось провести ряд содержательных встреч. Пока остается неясным, насколько содержательным стал его нынешний визит в Варшаву. К примеру, у главы российской делегации, секретаря Совбеза Владимира Рушайло состоялась двустороння встреча с шефом Бюро национальной безопасности Мареком Сивецом, которого считают очень влиятельной фигурой в окружении президента Польши. Надо полагать, собеседники говорили не только о проблемах, связанных с границей Польши и Калининградской области. Так уж совпало, что во время Варшавского форума было объявлено о предстоящем на следующей неделе первом визите президента Словакии Рудольфа Шустера в Москву. Руководители европейских государств продолжают летать в Москву, лишь пролетая над Беларусью.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

## ГРОШЫ

# Заробкі катастрафічна падаюць

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У верасні зафіксаванае падзенне не толькі рэальнай, але і намінальнай зарплаты: калі ў жніўні сярэдні заробак па народнай гаспадарцы складаў 145,9 тысячы рублёў, то ў верасні – 141,3 тысячы. Федэрацыю прафсаюзаў непакоіць і міжгаліновая дыферэнцыяцыя па ўзроўню заробкаў: розніца паміж самымі высокімі і самымі нізкімі паказчыкамі складае 6,1 раза.

Гіганцкая запазычанасць па заробках сталася прамым вынікам катастрафічнай сітуацыі ў эканоміцы Беларусі. Назіраецца спад у эканоміцы, колькасны рост у прамысловасці на 4,9% адбываецца за кошт «рэзкага пагаршэння якасных паказчыкаў». За студзень-верасень бягучага года колькасць стратных прадпрыемстваў склала больш за трэць ад усёй колькасці прадпрыемстваў. За год колькасць стратных прадпрыемстваў з 22% сягнула ажно на 13 пунктаў. У прамысловасці будаўнічых матэрыялаў – стратнае кожнае другое прадпрыемства.

На гэтым фоне рэзка пагоршылася і рэнтабельнасць прадпрыемстваў: з 12,2% летась сёлета яна ўпала да адзнакі ў 9,5%. Гэта прывяло, натуральна, да пагаршэння плацёжаздольнасці прадпрыемстваў, якая на 1 верасня склала 16,1%, ці на 3,6% менш ад узроўню, зафіксаванага ў студзені. Каэфіцыент плацёжаздольнасці сельскай гаспадаркі ўвогуле нікудышні – 3,5%, у сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі і таго меней – 1,7%.

Рэзюмуючы аналіз цяперашняга стану эканомікі, Франц Вітко заявіў, што «па плацёжаздольнасці больш за 80% усіх прадпрыемстваў падпадаюць пад працэдуру санацыі і банкруцтва». У Мінску такіх прадпрыемстваў рэальна тры: завод «Калібр», Мінскі гадзіннікавы завод і Мінскі трактарны завод, які знаходзіцца «ў катастрафічным стане». Аднак з 1 студзеня 2002 года ў адносінах да іх наўрад ці распачнецца працэдура банкруцтва, хаця яны ўжо трэці год працуюць у стратным рэжыме. Сярод стратных прадпрыемстваў – вельмі многа дзяржаўных суб'ектаў, а таму дзяржава не дазволіць зрабіць іх банкрутамі. Эканамічны крызіс – гэта пытанне хутчэй палітычнае, чым эканамічнае, лічыць Франц Вітко. Па ягоных словах, «трактарны завод ніколі не будзе прызнаны банкрутам», у адваротным выпадку гэта стане сацыяльнай катастрофай. На МТЗ працуюць 20 тысячаў чалавек, у кожнага з якіх ёсць сем'і, ёсць дзеці; апрача таго, у тэхналагічнай лініі на МТЗ завязаны яшчэ 120 тысячаў чалавек – такім чынам, з прызнаннем банкрутам МТЗ без сродкаў да існавання застануцца каля паўмільёна чалавек з чатырохмільённай працаздольнай арміі Беларусі.

**Рыгор БУЯН**




# Прорва

*Час гэткі. Той казаў: «Да Казанскай не зіма, пасьля Казанскай ня восень». А ў нас дзесяць гадоў – пераходная эканоміка. Спачатку начальнічкі ўсё балаболілі пра нечуваны рост. Калі ўбачылі, што гэта ўсім абрыдла і могуць спытацца, у каго вырасла, загулі пра нейкую «лібэралізацыю».*

**ДОЎГАТЭРМІНОВАЕ КРЭДЫТАВАНЬНЕ БАНКАМІ КАЛГАСАЎ**

| | 1990 | 1995 | 1997 | 1999 | 2001* |
|---|---|---|---|---|---|
| Выдадзена пазык за год (у % да тых, што вярнулі) | 200 | 404 | 810 | 8158 | 7900 |
| Вернута пазык за год (у % да тых, што засталіся) | 11 | 20 | 10 | 1 | 0,1 |
| Засталося пазык на канец году (у % да ВНП) | 0,14 | 0,05 | 0,09 | 0,85 | 0,17 |

*Прагноз. Разлікі аўтара паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу.

Адагэтуль што было? Кансэрвацыя славянакамунізму. Лепш за аднаго добрага дзядзечку ніхто не адказаў: «Лібэралы адрозніваюцца ад чарнасоценцаў тым, што ёсць прадстаўнікамі інтэрэсаў буржуазіі, каторай патрэбны прагрэс і, збольшага, прававы лад, выкананьне законаў, канстытуцыя і пэўная палітычная свабода. Але гэтая «прагрэсіўная» буржуазія баіцца дэмакратыі больш за рэакцыю». (Ленін)

Калі разбярэсься, дык бачна, што гісторыя паўтараецца. Спачатку камуністы нажэрліся і захацелі перабудовы, каб зрабіць яшчэ лепей сваім дзеткам. Зараз наплечнікі і запечнікі ўсенароднаабранага пра свой прыплод задумаліся.

Дзеткі за сем гадоў падгадаваліся. Трэба іх жаніць, сяліць, уладкоўваць на цёплыя месцы. А што можа быць цяплей за сумесную з уласнай афшорнай кампаніяй фірмёшачку ў зацішнай і навобмацак знаёмай Беларусі.

Вось і пайшла пагалоска пра амністыю капіталаў, прыцягненьне замежных інвестыцыяў ды спрыяльныя ўмовы дзеля айчыннага бізнэсу. Заадно і падаткі трэба зьмяншаць, кажуць. Не лупіць жа з саміх сябе скуру, неэстэтычна.

Паглядзім, можа дазвол скора будзе. І пацякуць грошы: з Румыніі і Грэцыі, з Балгарыі і Швэцыі і, навят, аж з Амэрыкі, са штату Мічыган.

Паважаныя чытачы спытаюцца: «Адкуль нашыя аўтарытэтныя вертыкальшчыкі з гарызантальшчыкамі грошай набралі?» На кожным канкрэтным выпадку сказаць цяжка. Канкрэтнымі выпадкамі зрэдку займаецца пракуратура, калі хлопцам не атрымаецца «па-чэснаму» падзяліцца.

Наогул жа ёсць такія магутныя крыніцы прыбытку, што вам і прымроіцца не маглі. А вось вельмі дасьведчаныя і вучоныя габрэі з Массаду падлічылі, што толькі за апошнія паўгады Беларусь дзеля забесьпячэньня мусульманаў зброяй падпісала дамоваў больш чым на 600 мільёнаў даляраў. Нешта з тых гешэфтаў няйначай адпадзе надзейным хлопцам.

Але гэтая сфэра вельмі патаемная. Расчыненая на крыві. Няхай яны там пазадушваюцца.

Мы лепш паталкуем пра добра нам вядомы выток багацьця – зямлю, карміцельку ўсіх ад брыгадзіравай кумы да ўдзельнічка агульнарэспубліканскіх сэлектарных нарадаў.

Гэтыя па-свойску, ціхамірна, прысмакталіся да вытока ўсіх даброт, і, бачыш ты, растуць па краіне мураваныя палацы, адчыняюцца новыя карысныя ўстановы і зачыняюцца старыя, непатрэбныя.

Так адбываецца і будзе адбывацца, покуль кіруюць на ўсіх узроўнях простыя вясковыя хлопцы, камсамольцы і камуністы савецкай беларускай загартоўкі. Іхны заблытаны сьветапогляд адлюстроўвае газэта «Советская Белоруссия». Іхняя заблытаныя справы адлюстроўвае айчынная статыстыка.

Сумленныя дзяржаўныя рахункаводы чарговы раз здзіўляюць сьвет нашымі дасягненьнямі.

Разгляд таблічкі прымушае задумацца. Калгасная сістэма ўсё хутчэй паглынае дзяржаўныя грошы. Дзяржаўныя таму, што асноўным акцыянэрам нашых камэрцыйных банкаў была і ёсць дзяржава. Дзяржава – гэта значыць вы, шаноўныя. Бо менавіта вашыя падаткі ўкладзеныя дзяржавай у статутныя капіталы банкаў.

Безумоўна, у першым радку добра бачны ўплыў інфляцыі. Але навят інфляцыя не дапамагае «калектыўным гаспадаркам беларускіх сялянаў» аддаць пазычаныя грошы. Зрэшты, штогадовы аб'ём завінавачанасьці нязначна вагаецца за апошнае дзесяцігодзьдзе ў адносінах да таго, што паспявае стварыць нацыя за год.

Нязменным застаецца ўсе гэтыя часы памер пратэрмінаваных пазык і тых, тэрмін вяртаньня каторых па ўзаемнай згодзе з банкам адкладзены. Гэтая катэгорыя віртуальных грошай складае шостую частку ад агульнага аб'ёму крэдытных укладаньняў.

Ой, дорага каштуюць калгасы дзяржаве. І калгаснікам. Па стане на 30 верасня, ім недадалі 28,1 млрд. руб., гэта было 45,4% ад месячнага фонду заработнай платы.

Між тым, кожны, хто разумее, з каторага боку на хлеб мажуць масла, ведае: розніца паміж сабе коштам і табе коштам складае прыбытак.

Не выплацілі калгаснікам зарплаты, не вярнуў калгас банку пазычаныя грошы – усё гэта наш дадатковы падатак на ўтрыманьне сістэмы камуністычнага прыгону – калгасаў.

Покуль ёсць у нашым краі гэтая прорва, будуць праз яе цячы нашы грошы ў начальніцкія кішэні, а яшчэ болей у Сьветлае Нікуды.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**



Фота IREX/ProMedia

# Чэргі ў чэргах

*560 тысяч беларускіх сем'яў стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў. Каля 140 тысяч з іх стаяць у гэтай чарзе ўжо больш за дзесяцігоддзе. Мала каму з гадамі шэнціць падзарабіць грошай і вырашыць сваё кватэрнае пытанне самастойна: пабудаваць ці купіць кватэру палепшанай якасці, у цагляным доме і прэстыжным раёне. Астатнім нічога не застаецца, як гадамі спадзявацца на льготны крэдыт на куток у доме «тыповых спажывецкіх якасцяў».*

Дзяржава, адчуваючы надзеі насельніцтва, залічыла жыллёвае будаўніцтва ў свае прыярытэты, усталявала кантроль за коштамі на квадратныя метры і паабяцала льготныя крэдыты. Між тым, штогод здаецца па 40-50 тысяч новых кватэраў, што ў адзінках вымярэння гучыць як 2,5-3 мільёны квадратных метраў. Такім чынам, у сярэднім прыпадае па 55-60 квадратных метраў на адну сям'ю. Сярэдні кошт аднаго квадрата агульнай плошчы ў такіх дамах, па дадзеных міністэрства статыстыкі, у трэцім квартале не перавышаў 287 тысячаў рублёў.

У Мінску сёлета павінны быць уведзены ў эксплуатацыю 512 тысяч квадратных метраў жылля (каля 8,5 тысяч кватэр), паловай з якіх (275 тысяч метраў квадратных) займаецца УП «Упраўленне капітальнага будаўніцтва (УКБ) Мінгарвыканкама». На пачатак кастрычніка, паводле словаў Сяргея Віннікава, намесніка дырэктара па эканамічных пытаннях УКБ Мінгарвыканкама, уведзена было толькі 140,8 тысяч квадратных метраў агульнай плошчы жылля, амаль 17 тысяч кв. метраў з якіх – сацыяльнае жыллё.

Як распавёў Сяргей Віннікаў, праз УКБ Мінгарвыканкама чалавек мае тры магчымасці атрымаць жыллё: праз жыллёва-будаўнічыя кааператывы, з ільготнымі крэдытамі і за ўласныя сродкі, а малазабяспечаныя могуць разлічваць на сацыяльнае жыллё. Жыллёва-будаўнічыя кааператывы ствараюцца пры адміністрацыях раёнаў горада, але патрапіць сёлета ў іх склад маглі толькі грамадзяне, якія сталі на ўлік маючых патрэбу да 1 студзеня 1986 года. Уводзіцца для ЖБК на год толькі 89,2 тысячы кв. метраў жылля, таму з тых 12 тысяч грамадзянаў, якія стаяць на ўліку, шанц атрымаць кватэру маюць толькі каля 1,5 тысячы сем'яў. Пакуль на пачатак кастрычніка ўведзена менш за палову ад запланаванага. На наступны год маюцца планы здаць на 5 тысяч кв. м. больш, таму можа на адну сотню шчаслівых сем'яў стане болей.

З ільготным крэдытаваннем будаўніцтва сітуацыя складаецца цяжэй. Каб яго атрымаць, неабходна накіраванне з мясцовай адміністрацыі, і толькі тады УКБ заключыць з вамі індывідуальную дамову на крэдытаванне. У штогадовых праграмах распісана сумарная плошча жылля, якая мусіць быць уведзена на працягу года, але гэтыя лічбы не адпавядаюць рэчаіснасці. Напрыклад, на 2001 год запланавана ўвесці 53 тысячы кв. метраў, а рэальна за выдаткаваныя рэсурсы атрымоўвасцца толькі 41,8 тысячы – каля 653 кватэр замест 870.

З тымі, хто будуе жыллё за кошт уласных сродкаў, праблемаў менш за ўсё. «Улічваючы нясвоечасовасць і нерытмічнасць выдаткавання крэдытных рэсурсаў, толькі плацёжаздольнасць гэтай катэгорыі грамадзянаў дазваляе нам не прыпыніць будаўніцтва дамоў», – канстатаваў С.Віннікаў.

Льготныя крэдыты па краіне, прыкладам, у 2001 годзе выдаткоўваліся толькі тым, хто стаяў у чарзе да 1990 года пад 10% гадавых з адтэрміноўкай выплаты на 20 год. Пры гэтым крэдытуецца не больш за 75% нармаванай плошчы (20 кв. метраў агульнай плошчы на чалавека). Многія, калі даведваліся, што трэба даплачваць па 2-3 мільёны рублёў з уласнай кішэні, адмаўляліся, бо не мелі такіх сродкаў. Увогуле з траўня 1999 года пасля падаражэння кошту будаўніцтва жылля акрэсліўся пэўны адток грамадзянаў, што жадалі пабудаваць сабе жыллё. Таму гадавы цэнз на атрыманне крэдытаў з 1986 года пастаноўкі на ўлік планавалася падвысіць да 1992 года.

Але як толькі з 1 ліпеня 2001 года Мінгарвыканкамам былі адменены ўнёскі на інфраструктуру – 27% кошту аднаго кв. метра жылля, людзі пачалі вяртацца. Для тых, хто пачаў будаўніцтва жылых дамоў да 1 ліпеня, яны адменены напоўную, а для тых, чые дамы пачалі будавацца толькі з ліпеня, унёскі скарочаныя да 20%. «Заможных» грамадзянаў, якія будуюцца без дзяржаўнай дапамогі, гэтыя льготы не закранулі, і яны мусяць выплачваць усё напоўную. Былыя адмаўленцы зноў пажадалі будавацца, таму гадавы цэнз на льготныя крэдыты замест 1992 года, як тое планавалася раней, будзе зніжаны да 1988 года. Гэта значыць, што на крэдыт у наступным годзе могуць прэтэндаваць толькі мінчукі, стаўшыя на ўлік чатырнаццаць год таму – да пачатку 1988 года.

Але, на жаль, гады не стаяць на месцы, і льготных крэдытаў можна не дачакаць наогул...

**Алена ЛАБАНАВА**

## Бюджэт напаўняюць трактарамі

Разглядаючы на сесіі Мінскага гарсавета ход выканання гарадскога бюджэту за 8 месяцаў, дэпутатам зноў давялося пачуць, што па фарміраванні даходнай часткі бюджэту сітуацыя «крайне цяжкая». Трэба выплачваць падвышаную на 23% заработную плату, а недабор толькі па падатку на прыбытак склаў больш за 7 мільярдаў рублёў. Не лепш становішча з падаткам на дадатковую вартасць і транспартным зборам. Праблемаў няма толькі з плацяжамі, якія не залежаць ад эфектыўнасці працы прадпрыемства (падатак на нерухомасць ці плацяжы з выручкі). А як было адзначана, ва ўсім рэальным сектары эканомікі эфектыўнасць працы толькі скарачаецца (23,4% прадпрыемстваў сталіцы за 9 месяцаў 2001 года спрацавалі са стратамі), а льготнікаў па падаткаабкладанні не менее. Гэта і спрычыньвае гарадскі фінансавы крызіс.

Крыдыторская запазычанасць у гарбюджэт на 1 кастрычніка 2001 года склала 19 мільярдаў рублёў. Да гэтага часу самая вялікая сума запазычанасці – 21 мільярд рублёў – належала Мінскаму трактарнаму заводу. Але паколькі жывымі грашыма атрымаць гэтыя сродкі гарадскія ўлады ўжо згубілі ўсялякую надзею, доўг спісалі толькі пасля выняцця ў МТЗ на ўсю суму гатовых трактараў. Грошай у бюджэце ад гэтага не дадалося, бо рэалізаваць трактары цяжка, але ўлады палічылі, што лепш мець мёртвым грузам трактары, чым зусім нічога.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

**СКАРБЫ**

## Маем сваю руду

Прыкладна 500 мільёнаў тон жалезнай руды ўтрымлівае Аколаўскае радовішча ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці. Пра гэта паведаміў намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Васіль Падаляка. Паводле яго слоў, утрыманне жалеза ў рудзе Аколаўскага радовішча складае прыкладна 28 працэнтаў. «Гэта вельмі высокі паказчык для металургічнай прамысловасці», – падкрэсліў намеснік міністра. Ён таксама паведаміў, што бліжэйшым часам будзе вырашацца пытанне аб мэтазгоднасці будаўніцтва завода на гэтым радовішчы.

Зараз на Аколаўскім радовішчы завяршаецца этап папярэдняй разведкі. Распрацоўка Аколаўскага радовішча будзе весціся метадам шахтнай выпрацоўкі, паколькі залягаючыя на глыбінях ад 65 да 120 метраў пласты жалезнай руды крута ідуць у нетры зямлі.

Аколаўскае радовішча адносіцца да ліку буйных і складаецца са слаістых горных парод – жалезістых кварцытаў. З іх складзены найбуйнейшыя ў свеце пластавыя радовішчы жалезнай руды – Курская магнітная анамалія, Крывârожскі жалезарудны басейн (Украіна) і Мінас-Жэрайс (Бразілія). З рудаў Аколаўскага радовішча можна атрымліваць звышбагаты магнетытавы канцэнтрат з утрыманнем жалеза да 70 працэнтаў. Выробленыя з яго металізаваныя акатышы цалкам падыходзяць у якасці сыравіны для Беларускага металургічнага завода.

**БелаПАН**

## Мінскія ўлады супраць міні-рынкаў

«Сёння ў Мінску функцыянуе 26 міні-рынкаў. На пасяджэнні гарвыканкама кіраўніцтва пацвердзіла пазіцыю, што далей мінірынкі развівацца ў колькасным плане не будуць. Не будуць выдзяляцца зямельныя ўчасткі, не будзе аказвацца садзейнічанне ў развіцці сеткі міні-рынкаў. Напэўна, ужо прыйшоў час, калі гандаль трэба пераводзіць на цывілізаваныя рэйкі. У нас дастаткова магазінаў, дзе жыхар можа купіць усё неабходнае. Крыху толькі бянтэжыць, што Мінская вобласць вакол кальцавой дарогі спрабуе пашыраць гэтую сетку», – сказаў на калегіі міністэрства гандлю начальнік галоўнага ўпраўлення спажывецкіх рынкаў Мінгарвыканкама Міхаіл Еўтухоўскі.

Між тым, па звестках міністэрства гандлю, у студзені-верасні гэтага года ўдзельная вага неарганізаванага гандлю ў агульным аб'ёме тавараабароту склала 30,5 працэнта супраць 26,8 працэнта за аналагічны леташні перыяд. У Мінску доля неарганізаванага гандлю ўзрасла з 21,5 да 28,9, у Мінскай вобласці – з 19,7 да 28,7 працэнта.

Рэнтабельнасць арганізаванага рознічнага гандлю застаецца вельмі нізкай і працягвае зніжацца – з 0,5 працэнта ў студзені-верасні 2000 года да 0,48 працэнта ў студзені-верасні 2001 года.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

**ЭКСПРЭС**

## Прогнозы, долги, расчеты

### Электронная торговля уже и у нас набирает темп

Количество интернет-магазинов в Беларуси в текущем году выросло вдвое. Теперь их более 120-ти. Пропускная способность связи с Интернет за последний год увеличилась в несколько раз, абонентская плата за доступ – сократилась в 1,5 раза. Система электронной торговли в Беларуси уже способна обрабатывать миллионы одновременных обращений пользователей. Кроме того, практически готовы программы, позволяющие осуществлять электронные платежи, проводить тендеры, рейтинги. Также активно разрабатываются стандарты, обеспечивающие защиту электронной торговли. Однако, по оценкам экспертов, для успешного развития коммерции в интернете белорусская аудитория сети должна составлять не менее 30% населения (сегодня это около 90 тыс. человек).

### Бери все, я себе еще нарисую

Прирост чистого внутреннего кредита (ЧВК) Национального банка Беларуси в январе-сентябре текущего года составил 203 млрд. бел. руб., говорится в отчете органов денежно-кредитного регулирования страны. Основными направлениями денежно-кредитной политики Нацбанка на 2001 год определено, что общий прирост ЧВК, который является показателем эмиссии, за год составит 163,3 млрд. бел. руб., из которых эмиссия рублей составит не более 142,6 млрд. бел. руб. Кредитование Нацбанком дефицита республиканского бюджета по соглашению с министерством финансов в январе-сентябре составило 105,5 млрд. бел. руб. Таким образом, за девять месяцев потребительские цены поднялись на 27,9% (в частности, за сентябрь инфляция составила 2,1% против 0,8% за август).

### Глобальные события – глобальные потери

Последствия сентябрьских террористических актов в США приведут к сокращению глобального производства на сумму примерно в 350 млрд. долл., считают эксперты ООН. По их мнению, мировой экономический рост составит в этом году 1,4% против ожидавшихся в июле 2,4%. На 2002 год прогноз снижен ими с прежних 3% до 2%. Глобализация приводит к тому, что экономические последствия трагических событий в США затронули практически весь мир: наиболее сильно страдают от потрясений в США Африка, Азия и Латинская Америка. В наименьшей степени чувствуют на себе негативный эффект Россия, Китай, страны Восточной Европы. Согласно исследованию экономистов, ускорения темпов роста мировой экономики теперь следует ожидать не раньше середины будущего года.

**Андрей КАРПОВИЧ**

# В Нюрнберге открылся музей нацизма



Постоянная выставка, посвященная событиям эпохи нацизма, открылась в немецком городе Нюрнберг. Именно здесь в свое время проходили многолюдные митинги в поддержку Гитлера, здесь же состоялся и знаменитый послевоенный трибунал.

Открытие музея – это попытка комплексно взглянуть на роль Нюрнберга в нацистском движении. Выставка располагается в специально построенном трехэтажном здании. Оно входит в комплекс сооружений, некогда спроектированный как конференц-зал главным архитектором третьего рейха Альбертом Шпеером. Высота потолков этого сооружения составляет 45 метров. Гитлер планировал проводить здесь массовые митинги. Открывая музей, власти обратились с призывом к жителям города подарить музею семейные реликвии, связанные с нацистскими митингами. Часть этих вещей попадет в экспозицию. Другие будут храниться в огромных запасниках. Название одной из экспозиций выставки «Обожание и насилие». Ее цель – попытаться объяснить, как Национал-социалистической партии удалось настолько полно завладеть умами своих сторонников.

ФЕСТЫВАЛІ

# Набліжаецца «Лістапад»

*З 23 па 29 лістапада ў Мінску пройдзе VIII міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі «Лістапад-2001». Заснавальнікамі фестывалю з'яўляюцца міністэрства культуры Беларусі, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, Беларускі саюз кінематаграфістаў, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, кінастудыя «Беларусьфільм».*

Як было абвешчана 6 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску, упершыню сёлета кінафорум пройдзе «пад асабістым патранажам старшыні Мінгарвыканкама Міхаіла Паўлава». Таксама ўпершыню ўрачыстае адкрыццё «Лістапада» адбудзецца ў Палацы Рэспублікі.

Паводле слоў першага намесніка міністра культуры Уладзіміра Рылаткі, «пра тое, што кіно з цяжкасцю, але адраджаецца», гаворыць і той факт, што ўпершыню на фестывалі ў конкурснай праграме будуць браць удзел кінематаграфісты з Кыргызстана. Падчас правядзення «Лістапада» плануецца падпісанне дагавора і праграмы супрацоўніцтва паміж міністэрствамі культуры Беларусі і Літвы, а таксама падпісанне дагавора і трохбаковага пагаднення паміж міністэрствамі культуры Беларусі, Расіі і Мінгарвыканкама аб стварэнні Цэнтра расійскага кіно на базе кінатэатра «Перамога».

Аб сваім удзеле ў кінафестывалі ўжо заявілі 9 краін: Беларусь, Расія, Латвія, Украіна, Арменія, Грузія, Літва, Узбекістан, Кыргызстан. У конкурснай праграме будуць прадстаўлены 16 фільмаў, сярод якіх: «Прыходзь на мяне пагладзець» (Расія, рэжысёры Алег Янкоўскі, Міхаіл Агранові\u0447), «Брэменскія музыканты» (Расія, рэжысёр Аляксандр Абдулаў), «Яды, або Сусветная гісторыя атручэнняў» (Расія, рэжысёр Карэн Шахназараў), «Містэрыя старой управы» (Латвія, рэжысёр Яніс Стрэйч), «Маймыл» (Кыргызстан, рэжысёр Актан Абдыкалыкаў), «Сёстры» (Расія, рэжысёр Сяргей Бадроў-малодшы), «Павадыр» (Беларусь, рэжысёр Аляксандр Яфрэмаў) і іншыя.

Сёлета на фестываль запрошаны вядомыя акцёры і рэжысёры: Валерый Тадароўскі, Уладзімір Грамацікаў, Георгій Жжонаў, Барыс Грачэўскі, Мікалай Бурляеў, Віктар Паўлаў, Валянціна Цялічкіна, Барыс Хмяльніцкі, Марк Рудзінштэйн і іншыя.

«Лістапад-2001» будзе працягваць традыцыю прадстаўлення фільмаў іх аўтарамі. У рамках фестывалю пройдуць сустрэчы з акцёрамі, рэжысёрамі ў студэнцкіх аўдыторыях БДУ, БДУК, БелАМ і іншых ВНУ.

У кінатэатры «Мір» пройдзе рэтраспектыва кінадэбютаў майстроў кіно Нікіты Міхалкова, Андрэя Канчалоўскага, Мікалая Бурляева, Віктара Турава. У «Перамозе» – паказ карціны «Афіцэры», а таксама па традыцыі – пазаконкурсная праграма. Сярод іншых паказаў варта адзначыць: рэтраспектыву фільмаў-лаўрэатаў «Залатога Віцязя», дні расійскага кіно, дакументальных фільмаў, дні кіно Прыбалтыкі, дзень дакументальнага кіно. У рамках кінафоруму ў кінатэатры «Піянер» пройдзе міжнародны фестываль дзіцячага кіно «Лістападзік», дзе будуць прадстаўлены карціны расійскіх, французскіх, узбекскіх, украінскіх, кітайскіх кінематаграфістаў. У канцэртнай зале «Мінск» адбудзецца конкурс спектакляў Тэатра-студыі кінаакцёра.

**Маша ПЯТРОВА**

КАЛЕКЦЫЯ

## Велікодныя песнапенні «Залатагорскай ліры»

Музычнае таварыства «Ліра» выпусціла аўдыёкасету з запісам велікодных песнапенняў, якія гучалі на II фестывалі духоўнай музыкі «Залатагорская ліра». Гэтая творчая акцыя праводзілася з 15 па 29 красавіка бягучага года ў мінскім касцёле Святой Тройцы (Святога Роха) на Залатой Горцы.

На касеце прадстаўлены ўсе ўдзельнікі фестывалю. Гэта – харавыя калектывы «Глорыя», «Абуджэнне», «Чыстая крыніца», «Голас душы», «Залатая Горка», «Сардзіс» і «Care voci», а таксама сольныя выканаўцы – вакалісты Тамара Рэмез і Таццяна Цыбульская, арганісты Святлана Немагай і Віктар Кісцень.

У іх выкананні гучыць негрыцянскі спірычуэлс, беларускія псалмы і велікодныя мелодыі многіх кампазітараў, у тым ліку Георга Гендэля, Фелікса Мендэльсона, Дэ Піацца, Станіслава Манюшкі і Джона Гершвіна.

Касету можна набыць у касцёле Святой Тройцы (Мінск, праспект Ф.Скарыны, 44 а). Тэлефон для даведак 213-32-97.

**БелаПАН**

# Аўчарка пакалечыла сваю гаспадыню

*У Драгічыне сабака пакалечыў 8-гадовую дзяўчынку: адкусіў палец, вуха, пакусаў твар і зняў скальп.*

Трагедыя адбылася ў сям'і супрацоўніцы ветлабараторыі. Еўрапейская аўчарка заўсёды была агрэсіўна настроена ў дачыненні да дзяўчынкі і не любіла дзяцей, якія часта яе дражнілі. У ракавы дзень маці дзяўчынкі была на сельгасработах у калгасе. Вярнуўшыся дамоў, яна ўбачыла пакусанае дзіця і раззлаванага сабаку. Дзяўчынку даставілі ў рэанімацыю. Паколькі жывёла была прышчэплена супраць шаленства, ветурачы не выключаюць, што прычынай агрэсіўнасці сабакі маглі стаць паводзіны дзяўчынкі.

Зараз пацярпелая разам з маці знаходзіцца ў апёкавым аддзяленні Брэсцкай абласной бальніцы. Дзяўчынцы прышылі вуха, скальп, зрабілі некалькі аперацый на твары; палец выратаваць не ўдалося. Паводле слоў медыкаў, дзіцяці давядзецца перанесці шмат касметычных аперацый.

Спецыялісты-ветэрынары, каменціруючы сітуацыю, акцэнтавалі ўвагу на тым, што жывёла, асабліва агрэсіўная, павінна ўтрымліваца на прывязі, а ў яе рацыён павінны ўваходзіць мяса і косці. Пасля правядзення ўсіх неабходных аналізаў, якія пацвердзілі, што сабака, які пакусаў дзяўчынку, здаровы, яго застрэлілі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Запрет на злобных врагов человека

Городской совет Чикаго единогласно принял постановление, направленное на установление жесткого контроля над собаками, представляющими потенциальную опасность для людей.

В соответствии с новыми правилами, собаки тех пород, которые признаны опасными, подлежат обязательной стерилизации. Кроме того, всем им будет имплантирован под кожу специальный чип, по которому в случае необходимости можно всегда найти их хозяина. Причем последний должен иметь страховку на случай возможной компенсации пострадавшим от его питомца в размере не менее $100 тысяч.

За выгуливание опасной собаки без поводка ее владелец заплатит штраф в $300. Если же собака нанесет кому-либо серьезную травму, то хозяину грозят штраф в $10 тыс. и тюремное заключение сроком до 6 месяцев.

Городской совет принял данное постановление по просьбам общественности Чикаго, обеспокоенной случаями нападения собак на людей. В этом году в результате таких инцидентов уже погибли двое детей, и еще один ребенок получил увечья.

К сожалению, подобные случаи не редки. Подобная проблема с содержанием опасных собак возникла в Латвии после нескольких случаев, когда оставленные без присмотра собаки покусали людей. В Риге, в частности, за медицинской помощью в прошлом году после собачьих укусов обращались в среднем два ребенка в день.

В связи с этим, правительство Латвии еще год назад утвердило правила содержания собак, запрещающие держать, плодить и ввозить в Латвию опасных собак. Животные, приобретенные до вступления в силу этих правил, подлежали кастрации или стерилизации.

Примерно в это же время был введен повсеместный запрет на импорт, разведение и содержание бойцовских собак в Германии. Запрет касался американских питбультерьеров, американских стаффорд-терьеров и стаффордширских терьеров. Этих опасных животных здесь уже стали называть «боевыми машинами». Решение же было принято после того, как в Гамбурге от укусов бойцовского пса погиб шестимесячный ребенок, а вскоре в этом же городе другая собака сорвалась с поводка и тяжело покусала молодую женщину, занимавшуюся бегом трусцой.

Конечно, справедливости ради стоит отметить, что укус можно получить и от ласковой домашней кошечки, и от добродушной лошадки, катающей в парке детишек, да и карликовые пудели и болонки способны больно тяпнуть за руку.

Но в первую очередь, все-таки виноваты сабаководы. Селекция собачьих пород уже давно идет с акцентом на агрессивность. Порой их специально натаскивают и обучают для нападения именно на человека. Да и сами бойцовские собаки, находящиеся в густонаселенных городских домах, в узких малогабаритных квартирах, постоянно подвергаются всевозможным стрессам. Поэтому в любой момент могут не адекватно отреагировать и стать неуправляемыми и агрессивными.

# Новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі

*У красавіку 2003 года ў Мінску на перакрыжаванні вуліцы Філімонава і праспекта Францішка Скарыны распачнецца будаўніцтва новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі. Такое заданне 5 лістапада даручана ажыццявіць міністэрству архітэктуры і будаўніцтва падчас наведвання Аляксандрам Лукашэнкам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*

Пра гэта ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН паведаміла дырэктар бібліятэкі Галіна Алейнік. Паводле яе слоў, кіраўнік дзяржавы азнаёміўся са станам кнігасховішча і чытальнымі заламі, а таксама з архітэктурным праектам новага будынка бібліятэкі. Дарэчы, выдзяленне неабходных сродкаў на завяршэнне апошняга і збудаванне будынка галоўнай бібліятэкі краіны прадугледжана ў пратаколе даручэнняў прэзідэнта, дадзеных на рэспубліканскай нарадзе па праблемах развіцця культуры і мастацтва, якое адбылося 1 лютага бягучага года.

Для завяршэння праекта новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі праектнаму прадпрыемству «Творчая майстэрня Міхаіла Вінаградава» патрабуецца значнае фінансаванне. Сярод іншага, яно ўключае выдзяленне сродкаў для замежнай паездкі беларускіх дойлідаў, якія змаглі б азнаёміцца з найноўшымі дасягненнямі сусветнай архітэктуры ў справе праектавання нацыянальных бібліятэк. Разам з тым патрабуюцца асігнаванні для запрашэння замежных спецыялістаў па праектаванню сістэм аператыўнай дастаўкі чытачу кнігі са сховішча ў чытальную залу з дапамогай сістэм «інтэрліфт» і «тэлеліфт», якія вырабляюцца ў ЗША, ФРГ і Японіі і шырока прымяняюцца ў сучаснай бібліятэчнай справе.

Гісторыя праектавання комплексу Нацыянальнай бібліятэкі пачалася яшчэ ў савецкія часы, калі 28 лістапада 1988 года была прынята адпаведная пастанова ўрада. Сярод шэрагу прапанаваных пляцовак, дзе планавалася ўзвесці новы будынак, было выбрана месца на перакрыжаванні праспекта Ф.Скарыны з вуліцай Філімонава ў мікраёне Усход-1 Першамайскага раёна сталіцы. Тут, на беразе аднаго з водасховішчаў, уваходзячых у Сляпянскую водную сістэму, і было вырашана пабудаваць новы комплекс, размешчаны ў 300 метрах ад станцыі метро «Усход». Па выніках усесаюзнага конкурсу 1989 года праект майстэрні Вінаградава быў прызнаны лепшым. У ім быў улічаны ўвесь перадавы вопыт будаўніцтва падобных збудаванняў на тэрыторыі СССР і шэрагу еўрапейскіх краін. Да 1993 года эскізны праект будынка быў завершаны, аднак потым праектныя працы былі спынены і аднавіліся толькі ў 1998 годзе.

Праект новага комплексу Нацыянальнай бібліятэкі ўяўляе сабой 72-метровы ромбакубаэктаэдр (аб'ём, набліжаны да шара і нагадваючы агранены алмаз), пастаўлены на 3-паверховы кальцападобны стылабат. У высотным будынку знаходзіцца сховішча на 12 мільёнаў тамоў (для параўнання – у дзеючым будынку бібліятэкі захоўваецца 7 мільёнаў тамоў), а ў кальцападобным – тэматычныя чытальныя залы на 2,5 тысячы месцаў.

**Марат ГАРАВЫ**

ЛЮСТРАФАКТ



Сабака патрабуе выхавання і клопату. Тады яна верна служыць, як на мяжы, дзе кусае толькі ворагаў

НАВУКА

# Тайна Тунгусского метеорита



30 июня 1908 года страшный взрыв раздался в районе реки Подкаменная Тунгусска. Взрывная волна дважды обогнула земной шар и подняла тонны пыли по всей планете.

Тысячи деревьев полегли на площади в несколько тысяч квадратных километров. Деревья не были выкорчеваны. Они остались лежать без коры и кроны, а корни их были направлены к эпицентру взрыва. В 10.000 километрах от места падения метеорита, в Лондоне, из-за появившейся в воздух пыли глубокой ночью можно было читать газеты, не зажигая света.

Российское правительство не стало направлять в район взрыва ученых, и первая экспедиция была направлена в район взрыва лишь в 1930 году. Экспедицию возглавлял советский геолог Л.А. Кулик. В эпицентре взрыва не осталось ни кратера, ни даже небольшой воронки. Никаких фрагментов небесного тела ни в почве, ни в деревьях и воде обнаружено не было. Причина взрыва оставалась тайной почти столетие.

Что это было? Падение метеорита? Взрыв инопланетного космического корабля? Итальянским ученым, проанализировавшим все показания и свидетельства очевидцев, а также результаты всех экспедиций в район падения Тунгусского метеорита, удалось, наконец, прояснить картину происшедшего.

В ходе исследования были сопоставлены траектории движения небесных тел, возможности существования комет, траектории которых могли бы пересекать траекторию Земли, а также последние исследования строения небесных тел.

Взрыв, эквивалентный по мощности 10-15 миллионам тонн тринитротолуола, был вызван разрушением метеорита, плотность которого была очень мала. Она приблизительно соответствовала плотности воды.

Астероид, который упал в районе реки Подкаменная Тунгусска, был всего-навсего сгустком космической пыли. Он прилетел в этот район с юго-востока, а скорость небесного тела в атмосфере Земли составила порядка 11 километров в секунду.

Как считают итальянские исследователи, астероид, упавший на Землю в 1908 году, был очень похож по своей структуре на астероид Матильда, который был сфотографирован в 1997 году космическим зондом. Таким образом, астероид, состоящий из мельчайших частиц космической пыли, полностью растворился в земной атмосфере, а поверхности достигла лишь мощная ударная волна.

**Александр ГОЛУБЧИКОВ**

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1781 Нумар падпісаны ў друк 8/11/2001 (15:00) Наклад – 10.120